Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№27 ліпень 2013

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

**У Гародні 10 ліпеня прайшла акцыя напісання паштовак тым, хто паводле палітычна матываваных прысудаў знаходзіцца ў Беларусі зараз за кратамі.**




*Арганізатарамі мерапрыемства выступілі гарадзенскія праваабаронцы з “Вясны” і “Салідарнасці”. Цягам чатырох гадзін было падпісана і раздадзена для падпісання некалькі соцень паштовак у падтрымку палітычных зняволеных.*

*Перад прысутнымі выступіў таксама ведамы гарадзенскі музыка Алесь Дзянісаў. Гарадзенскія праваабаронцы мяркуюць рабіць такую маральную падтрымку палітвязням рэгулярна.*

## У Горадні напісалі лісты палітвязьням



Акцыя «Гарадзенцы ў падтрымку палітвязьняў» адбылася10 ліпеня ў Горадні. па вуліцы Будзёнага 48а з 16.00 да 20.00. Арганізатары запрасілі суайчыннікаў напісаць паштоўкі і лісты падтрымкі палітычным зьняволеным.

Адзін з арганізатараў акцыі Эдвард Дзьмухоўскі заявіў, што акцыя адбываецца ў межах кампаніі «Тыдзень палітвязьня» абвешчанай праваабаронччым цэнтрам «Вясна».

«Якраз у пэрыяд адпачынкаў, калі людзі імкнуцца вясёла бавіць свой час, мы хочам нагадаць ім, што ў нашай жа краіне ёсьць людзі незаконна асуджаныя, якія зараз у жудасных умовах знаходзяцца ў турэмных камэрах. І мы запрашаем усіх гарадзенцаў, каб яны, напісаўшы некалькі слоў гэтым людзям, падтрымалі іх маральны дух», — кажа Дзьмухоўскі.

Падчас акцыі адбыўся выступ гарадзенскіх музыкаў: Алеся Дзянісава з сябрамі.

## Маленькая перамога Мікалая Уласевіча ў судзе



25 ліпеня 2013 у Ашмянскім раённым судзе быў працягнуты разгляд пазову актывіста з Астравеччыны Мікалая Уласевіча да Ашмянскай рэгіянальнай мытні на прадмет вяртання з чужога незаконнага валодання асабістых рэчаў. Гэтыя рэчы былі забраныя ва Уласевіча на памежным пераходзе Катлоўка яшчэ 10 красавіка 2011 года. Частка з іх па выніках экспертызы, якую правяло УКДБ Гарадзенскай вобласці і ідэалагічнае упраўленне Гарадзенскага аблвыканкаму, была знішчана. Былі знішчаны два наборы навучальных плакатаў "Чарнобыльскія ўрокі", выданыя ў Маскве і амаль два дзесяткі стыкераў "Фукусіма" і "Народжаныя ня поўзаць", а таксама брашура з альтэрнатыўным дакладам беларускіх НДА пра стан рэчаў з абаронай правоў чалавека за 2010 год.

У выніку трэцяга раўнду разгляду суд абавязаў Ашмянскую мытню вярнуць Уласевічу ягоныя дыктафон і два дыскі DVD. Што найбольш істотна – суд пастанавіў выплаціць коштам казны Рэспублікі Беларусь як вяртанне стратаў Уласевіча кошт канфіскаваных і знішчаных рэчаў, а таксама судовыя выдаткі, якія былі ў актывіста. Аднак, паводле пастановы суда дзяржпошліна Уласевічу будзе вернутая толькі часткова. Тым не менш, Мікалай Уласевіч лічыць, што на гэты раз суд стаў на бок законнасці.

## ГА «БАЖ»: Пакуль у Беларусі прыцягваюць да крымінальнай адказнасці за погляды, ніхто не можа пачуваць сябе вольным!

На пасяджэнні 23 ліпеня Праўленне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" прыняло заяву з нагоды спынення крымінальнага пераследу шэрагу сябраў арганізацыі.

ЗАЯВА

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" з нагоды спынення крымінальнага пераследу сяброў арганізацыі

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" віншуе сваіх сяброў – Ірыну Халіп, Сяргея Вазняка і Аляксандра Фядуту -- са спыненнем крымінальнага пераследу.

Разам з тым, мы занепакоеныя лёсам нашых калег Алеся Бяляцкага, Паўла Севярынца, якія зараз адбываюць крымінальнае пакаранне, і Андрэя Пачобута, у адносінах да каторага дзейнічае адтэрміноўка прысуду.

Па-ранейшаму патрабуем спыніць крымінальны пераслед у адносінах да іншых нашых калег, а таксама далучаемся да заклікаў вызваліць усіх грамадзян Беларусі, прызнаных палітвязнямі.

Пакуль у Беларусі людзі прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці за свае погляды і меркаванні, ніхто з грамадзянаў краіны не можа пачуваць сябе вольным.

Прынята на пасяджэнні Праўлення ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" 23 ліпеня 2013 года.

# Паштоўка салідарнасці

***У Гародні прайшла акцыя, на якой усе жадаючыя маглі падпісаць паштоўку палітвязням. У Беларусі зараз хоць якія публічныя акцыі, не санкцыянаваныя ўладамі, вялікая рэдкасць. Лягчэй пераскочыць самога сябе, чым атрымаць дазвол на пікет або шэсце. Ну а правядзенне акцый без адпаведнага дазволу можа акурат паспрыяць павелічэнню колькасці палітвязняў за кош тых грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія, пакуль што, толькі падпісваюць паштоўкі палітвязням.***

Таму неабыякавыя да лёсу сваіх суайчыннікаў беларусы ўсё часцей шукаюць такія формы грамадскай актыўнасці, якія цяжка падвесці пад якое-небудзь парушэнне. І разам з тым гэтая дзейнасць дастаткова эфектыўная, бо зберагае галоўныя рэчы з якіх і пачынаецца нацыянальная свядомасць і беларускае адраджэнне. Адна з такіх рэчаў – салідарнасць. І масавае падпісанне вязням паштовак ёсць ні што іншае, як праява гэтага чалавечага пачуцця.

Жадаючыя падпісаць паштоўку таксама знайшліся. Хтосьці падпісваў адну і хуценька зыходзіў, а іншыя падпісвалі некалькім чалавекам, або ўсім. Многія дзяліліся сваімі думкамі. Некаторыя задавалі пытанні, выказвалі свае эмоцыі.

– Не магу зразумець, як чалавека можна пераследаваць за яго перакананні, – разводзіць рукі сталага веку эмацыйны мужчына. – Як гэта нейкі грамадзянін Рэспублікі Беларусь, можа пераследаваць гэткага ж грамадзяніна той жа Рэспублікі Беларусь?! Кожны ж з іх мае такія ж правы! Такія самыя! Бо абодва нарадзіліся на адной і той жа зямлі, якая абодвум належыць аднолькава па праву гэтага ж нараджэння!

– Можа хто ведае, ці выпусцяць зараз каго з іх на волю, – пытаецца жанчына, спадзяваючыся, што хтосьці з прысутных арыентуецца ў сітуацыі больш за яе. – Вось жа і з міністра нашага знялі санкцыі і пусцяць у Еўропу. Можа гэта нейк паўплывае на рашэнне па вызваленню гэтых людзей?

– А скажыце, колькі іх асталося? – Цікавіцца маладая дзяўчына. – І вось я чула, што праваабаронцы прызнаюць палітвязнямі не ўсіх, а толькі тых, якія адпавядаюць нейкім крытэрам.



Можа хто можа распавесці пра тыя крытэры?

– Ну вось за што гэтаму маладому хлопцу накінулі яшчэ адзін лішні год? – Шчыра здзіўляецца яшчэ адна кабета, якая зайшла ў спешцы, пільна паўзіралася на прысутных, і атрымаўшы на сваё пытанне ажно некалькі адказаў, падобных па сутнасці, але адрозных па зместу, хутка падпісала паштоўку і гэтак жа хутка выйшла.

– А за гэта мне нічога не будзе? – Непакоіцца невысокі мужчына, і пачуўшы ў адказ “Будзе” усядно падпісвае паштоўку з трохі напалоханым, але поўным гонару ад здзяйсняемага ўчынку выразам твару.

– А ці дойдуць нашы паштоўкі да адрасатаў? – Ні то ў прысутных, ні то сама ў сябе пытаецца кабета з дзіцём. І ў яе голасе адчуваецца шчыры непакой. Маўляў, знайшла ў сябе адвагу зрабіць гэты ўчынак, дык хоць бы не прапаў ён марна. – Мы ж аніяк не зможам праверыць, ці дайшлі паштоўкі да тых, каму адпраўленыя. Я вось і зваротны адрас напісала, – ганарыцца сваёй смеласцю. А далей маркоціцца: – Калі мне адпішуць, то я буду ведаць што ліст дайшоў, а як не адпішуць, то і не даведаюся ніколі.

– Я адразу сумняваўся, што справа тут у нявыплаце, – сцвярджае незнаёмы дзядзька.

Але большыня прыйшоўшых добра ведаюць адзін другога. Вітаюцца, размаўляюць, абмяркоўваюць нешта, жартуюць. Зазіраюць у тэксты сяброў, пытаюцца як лепш напісаць, даюць парады. Усе жадаюць асуджаным хутчэйшага вызвалення, пішуць, што ганарацца імі.

Сённяшняя ўлада адмаўляе сам факт існавання ў Беларусі палітычных вязняў. І абвінавачвае ў перадузятасці да гэтага пытання ўсе тыя і міжнародныя, і айчынныя структуры, якія дбаюць пра людзей, што апынуліся за кратамі з-за сваёй грамадзянскай пазіцыі. Улада сцвярджае, што ўсе яны асуджаныя за крымінальныя злачынствы. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі бесперапынна даводзяць гэтую пазіцыю да грамадзян краіны.

Але падпісаных паштовак на стале ўсё больш. Грамадзяне публічна, праз паштоўку, выказваюць сваё меркаванне.

*Віктар Сазонаў*

# Міжнародная назіральная місія па Беларусі прызначыць Прадстаўніка па абароне праваабаронцаў

Міжнародная назіральная місія Камітэта міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі абвясціла аб адкрыцці конкурсу на пасаду Прадстаўніка па становішчы праваабаронцаў.

Становішча праваабаронцаў у Беларусі выклікае пастаянную занепакоенасць міжнародных арганізацый, што неаднаразова адзначаў Камітэт міжнароднага кантролю ў сваіх дакументах.

«Праблемы са становішчам праваабаронцаў у Беларусі носяць сістэмны характар. І справа не толькі ў выпадках прамога пераследу, самы вядомы з якіх - гэта турэмнае зняволенне Алеся Бяляцкага, але і ў агульных умовах працы праваабарончых арганізацый, якія застаюцца вельмі неспрыяльнымі», - падкрэслівае кіраўнік Міжнароднай назіральнай місіі Андрэй Юраў. «Мы вырашылі заснаваць асобную пасаду і прызначыць канкрэтнага чалавека, які будзе адказваць за каардынацыю намаганняў і выпрацоўку і прасоўванне рэкамендацый па гэтай тэме».

Адмысловы прадстаўнік у рамках Міжнароднай назіральнай місіі будзе каардынаваць працу маніторынгавай групы па гэтай тэме, адказваць за фарміраванне рэкамендацый да ўладаў Рэспублікі Беларусь і міжнародным міжурадавым арганізацыям і іншым актарам.

Патрабаванні, якім павінны адпавядаць кандыдаты: веданне рускай, ангельскай і, пажадана беларускай моў; веданне сітуацыі ў Беларусі і ў рэгіёне ў цэлым, досвед працы ў Рэспубліцы Беларусь або за яе межамі па беларускай тэматыцы; досвед працы ў галіне абароны і прасоўвання правоў чалавека ў цэлым і абароны праваабаронцаў у прыватнасці.

Для патэнцыйнага Прадстаўніка важная гэтак жа прававая прынцыповасць і палітычная бесстаронасць - мандат Прадстаўніка не можа выкарыстоўвацца для выказвання і прасоўвання інтарэсаў якіх бы там ні было палітычных структур.

Намінаваць сваіх кандыдатаў змогуць міжнародныя няўрадавыя арганізацыі ці іх аддзялення і філіялы, якія працуюць у сферы абароны правоў чалавека; рэгіянальныя няўрадавыя арганізацыі, якія працуюць у сферы абароны правоў чалавека; міждзяржаўныя і нацыянальныя структуры, у мэты якіх уваходзіць прасоўванне правоў чалавека (у т.ч . парады, кааліцыі, платформы і да т.п.); але магчымыя і індывідуальныя намінацыі.

Заяўкі прымаюцца да 27 ліпеня 2013 г. Мяркуецца, што канкрэтны чалавек будзе прызначаны на пасаду 4 жніўня 2013 г. у Дзень міжнароднай салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.

З поўным тэкстам аб'явы можна пазнаёміцца ??на сайце Камітэта - http://hrwatch- by.org

# Дэлегаты З'езда беларусаў свету заклікалі ўлады вызваліць палітвязняў

Дэлегаты VI з’езда беларусаў свету, які праходзіць у Мінску 23–24 ліпеня пад эгідай міжнароднай грамадскай арганізацыі «ЗБС «Бацькаўшчына», заклікалі ўлады Беларусі вызваліць палітвязняў.

Пра гэта гаворыцца ў прынятай сёння на з’ездзе калектыўнай заяве «Аб акце добрай волі».

Дакумент выклікаў пратэст з боку групы дэлегатаў, пераважна з Украіны, якія аргументавалі сваю пазіцыю тым, што «гэта — унутраная справа Рэспублікі Беларусь». Пытанне выклікала бурнае абмеркаванне, аднак толькі восем чалавек выказаліся за зняцце гэтай заявы з парадку дня.



У заяве гаворыцца пра тое, што клопат грамадзян пра будучыню сваёй краіны — гэта натуральная з’ява, якая годная пашаны і павагі.

«Натуральным з’яўляецца тое, што не ўсе людзі аднолькава ацэньваюць розныя дзеянні ўлады, у першую чаргу тыя, якія тычацца пытанняў унутранай і замежнай палітыкі, перспектыў захавання незалежнасці краіны», — адзначаецца ў дакуменце.

Яго аўтары падкрэсліваюць: «Моцная ўлада, упэўненая ў сваёй праваце, вядзе дыялог са сваімі палітычнымі апанентамі».

«На жаль, у Беларусі і сёння ёсць людзі, пазбаўленыя волі за свае палітычныя перакананні, якія не супадаюць з афіцыйным меркаваннем, і не маюць магчымасці ўдзельнічаць у такім дыялогу», — адзначылі аўтары заявы, дадаўшы, што міжнародная супольнасць называе такіх людзей палітычнымі вязнямі.

«У пабудове моцнай незалежнай Беларусі вельмі важнымі з’яўляюцца адзінства нацыі, разуменне ўсімі грамадзянамі каштоўнасцяў дэмакратыі і суверэнітэту,

-сказана ў прынятым дакуменце. — Улада павінна аб’ядноўваць людзей, быць справядлівай і добразычлівай да ўсіх грамадзян краіны незалежна ад іх палітычных поглядаў. Жорсткасць ня будуе, а разбурае».

Мы заклікаем улады Беларусі зрабіць акт добрай волі і вызваліць з месцаў зняволення людзей, якія знаходзяцца там у пакаранне за свае палітычныя перакананні.

Мы ўпэўненыя, што такія дзеянні кіраўніцтва краіны будуць пазітыўна ацэнены народам Беларусі і міжнароднай супольнасцю», — рэзюмавалі аўтары заявы.

# Заява Праваабарончага цэнтра "Вясна" з нагоды крымінальнага пераследу В. Парфянкова і У. Яроменка




Заява Праваабарончага цэнтра "Вясна"

16 ліпеня 2013 г.

12 ліпеня Першамайскі раённы (г. Мінска) аддзел Следчага камітэта паведаміў былому палітвязню Васілю Парфянкову пра ўзбуджэнне супраць яго крымінальнай справы за парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду, устаноўленага судом Першамайскага раёна Мінска. У гэты ж дзень актывісту было прад'яўлена абвінавачванне паводле артыкула 421 Крымінальнага кодэкса. Абвінавачанне паводле гэтага артыкулу стала ўжо другім па ліку пасля вызвалення Васіля Парфянкова згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні ў жніўні 2011 года пасля ягонага асуджэння да чатырох гадоў пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацый падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Першы раз актывіст быў асуджаны судом Першамайскага раёна г. Мінска паводле артыкулу 421 Крымінальнага кодэкса 29 траўня 2012 г. і пакараны 6 месяцамі турэмнага арышту.

16 траўня крымінальная справа з аналагічным абвінавачаннем у парушэнні ўмоў прэвентыўнага нагляду была ўзбуджана ў дачыненні яшчэ аднаго былога палітвязня і фігуранта крымінальнай справы "аб масавых беспарадках" -- актывіста "Маладога Фронта" Уладзіміра Яроменка. За ўдзел у акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў 14 траўня 2011 г. ён быў асуджаны судом Партызанскага раёну Мінску на 3 гады пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 293 КК РБ, у жніўні таго ж года – памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" расцэньвае крымінальны пераслед Васіля Парфянкова і Уладзіміра Яроменка як выключна палітычна матываваны, звязаны з імкненнем уладаў спыніць іх актыўнасць, а таксама з жаданнем запалохаць іншых палітычных і грамадскіх актывістаў.

Васілю Парфянкову і Уладзіміру Яроменка пагражае да году пазбаўлення волі. У выпадку прызнання іх вінаватымі і асуджэння да фактычнага пазбаўлення волі, яны будуць прызнаны палітычнымі зняволенымі.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" патрабуе:

-- неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх палітычных вязняў, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі;

-- спынення крымінальнага пераследу ў дачыненні да Васіля Парфянкова і Уладзіміра Яроменка;

-- зняцця (пагашэння) судзімасці з усіх незаконна асуджаных па палітычных матывах, што будзе расцэнена як крок да іх рэабілітацыі і дазволіць працягнуць грамадска-палітычную дзейнасць.

# Еўрапарламент: вызваленне ўсіх палітвязняў - абавязковая ўмова для ўзнаўлення ўзаемаадносін з Беларуссю

Камітэт па міжнародных справах Еўрапейскага парламента прыняў рэкамендацыю аб палітыцы Еўразвяза ў дачыненні да Беларусі, зноў заяўляючы аб неабходнасці безумоўнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных у якасці перадумовы для паступовай адмены ЕЗ абмежавальных мераў і аднаўлення адносін паміж ЕЗ і Беларуссю.

"Вызваленне ўсіх палітычных зняволеных з'яўляецца абавязковай умовай для ўзнаўлення ўзаемаадносін Еўразвяза і Беларусі. Становішча з правамі чалавека ў Беларусі застаецца, увогуле, вельмі непакоячым, таму мы, члены групы Еўрапейскай Народнай Партыі, праводзілі прынцыпы дэмакратыі, вяршэнства закона й правоў чалавека ва ўсім дакладзе. Мы таксама падкрэслілі, што грамадзянская супольнасць павінна ўдзельнічаць на роўных з уладай у дыялогу па мадэрнізацыі, дзеля спрыяння міжасабовым стасункам людзей патрэбнае спрашчэнне візавых працэдур і, у доўгатэрміновай перспектыве, забеспячэнне магчымасці безвізавых падарожжаў для для беларусаў", заявіў дэпутат Еўрапарламента Яцэк Пратасевіч, Ценявы дакладчык групы ЕНП.

"Пакуль не вызваляюцца палітвязні, ня будзе ўведзены мараторый на прымяненне смяротнага пакарання й ня будуць праведзеныя справядлівыя выбары, што азначае адсутнасць паляпшэння становішча з правамі чалавека ў Беларусі", дадаў Філіп Качмарэк, кіраўнік дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю.

Абодва дэпутаты падкрэслілі, што любое аднаўленне дыялогу паміж ЕЗ і Мінскам павінна адбывацца паводле строгіх умоваў і залежаць ад поступу ў галіне правоў чалавека, грамадзянскіх свабод і дэмакратыі. Тыя ж умовы павінны таксама датычыць нядаўняга рашэння замежных спраў ЕЗ аб прыпыненні візавых санкцый Еўразвяза ў дачыненні да кіраўніка беларускай дыпламатыі Уладзіміра Макея.



"Прадастаўляючы спадару Макею права на свабоду перамяшчэння на сваёй тэрыторыі, ЕЗ пацвярджае сваю прапанову дапамогі і парадаў для Беларусі. Я шчыра спадзяюся, што беларускія ўлады скарыстаюцца гэтай унікальнай магчымасцю, каб пачаць канкрэтны і цвёрды дыялог з ЕЗ аб дэмакратычных рэформах, павазе да вяршэнства права, правоў чалавека і асноўных свабод", завяршыў Яцэк Пратасевіч.

# Пра людзей і свінства

***Даўно беларуская вёска не пераживала такой панікі. У цёплае, а часам і гарачае лета вясковыя гаспадары бязлітасна колюць, рэжуць і страляюць сваіх няшчасных парсюкоў і падсвінакаў. Інфармацыйная прастора поўніцца сама разнастайнымі чуткамі і невераГоднымі гісторыямі. У ціхую Беларусь прыйшла афрыканская чума свіней. Калі прыходзіць такая хвароба жывёлы, іншага выйсця – як толькі знішчаць пагалоўе ў падазроным рэгіёне няма. Рашэнне непапулярнае, але змушанае. Кажуць, што па раёнах гойсаюць цэлыя эскадроны знішчальнікаў. Толькі які сапраўдны маштаб гэтай эпідэміі? То пра адзін раён Беларусі гаворыцца, то пра іншы...***

Стаў я шукаць дакладных звестак на афіцыйных дзяржаўных сайтах. Удалося толькі на старонцы дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь знайсці адзіную інфармацыю пра выяўленне вірусу афрыканскай чумы ў вёсцы Чапунь Івейскага раёну. Там змешчана таксама памятка “О проведении ограничительных мероприятий по африканской чуме свиней”. Як па мне – дык крытычна замала інфармацыі. Бо незразумела, якія сапраўдны арэал гэтай хваробы ў Беларусі. Бо нічога ніхто не гаворыць пра галоўнае – ці будзе гаспадарам забітых свіней якая-небудзь кампенсацыя, бо для вясковых людзей – гэта вялікая матэрыяльная страта. Таму і ўзнікае паніка, таму і ладзіць калгаснае насельніцтва “варфаламееўскія ночы” для сваіх чатырохногіх гадаванцаў.



За што мы любілі гарбачоўскую перабудову – дык гэта за галоснасць. У той час хапала бесталкоўшчыны, кампанейшчыны і нават хаосу. Але была і праўдзівая інфармацыя, за права на якую столькі стагоддзяў змагалася ўсё чалавецтва. Працэс гэты быў няпросты і хваравіты. Савецкая наменклатура хавала галоўную праўду, так, прыкладам, выганялі людзей на першамайскія дэманстрацыі пад радыёактыўныя чарнобыльскія ападкі. Звычкі гэтай савецкай наменклатуры паспяхова пераняла ўжо новая беларуская наменклатурная каста. У нас жа ўсё замоўчваюць – і рэальныя лічбы на выбарах, і эпідэмію грыпу, і трагічныя здарэнні, вось і цяпер няма нармальнай інфармацыі пра гэтую афрыканскую чуму.

А вось старшыню партыі верных ленінцаў-камуністаў, які адначасна займае пасаду намесніка старшыні мінскага гарвыканкаму, Ігару Карпенку падклалі сапраўдную “свінню”. Выйшаў высокі чыноўнік і носьбіт ідэі светлай будучыні на сцэну павіншаваць чарговую абраную міс беларускай сталіцы. Як належыць уручыў кветкі, пацалаваў ручку прыгажуні, словам ніякіх намёкаў на сексуальнае дамаганне. Але гэты пракляты інтэрнэт сапсуе біяграфію каму хочаш. З усіх шчылін павыцягвалі пікантныя фотаздымкі як новаабранай мінскай “міскі”, так і іншых прэтэндэнтак на карону каралевы прыгажосці. Выявілася, што многія з іх працуюць начамі ў досыць сумнеўных клубах для такіх жа сумнеўных мужчынскіх забаваў і ня надта пільнуюць свае цноты. І цалуюць ім там зусім ня ручкі, а, пардон, голыя цыцкі абляпаныя вяршкамі. Ведаў бы бедны Ігар Карпенка – мог бы зусім па-іншаму скарыстацца сітуацыяй. А можа гэта быў заранёў спланаваны пазітыўны піяр, які прыдумаў яшчэ незабыўны містыфікатар – лорд Бэл? Можа гэта і ёсць нашы галоўныя брэнд, трэнд, ноў-хаў і таму падобная халера? Якраз перад чэмпіянатам свету па хакеі, што пройдзе ў наступным годзе ў Беларусі. Уяўляеце, лепшым хакеістам кожнай сустрэчы дазваляецца пацалаваць у грудзі міс Менску! Ды яны лёд будуць грызці. І на трыбуны ня трэба будзе нікога заганяць сілай, народ у нас відовішчы любіць. Вось і ў Бабруйску людзі паперліся на нейкае шоў атраду міліцыі асаблівага прызначэння. А там вазьмі мікрааўтобус і урэжся ў натоўп. Дзякуй Богу, што абышлося без ахвяраў, толькі траўмамі і спалохам скончылася. У сацыяльных сетках пішуць, што потым людзям на месцы тлумачылі – нічога надзвычайнага не здарылася, маўляў, так і было задумана. Няма чумы страшнейшай за хлусню…

***Уладзімір Хільмановіч***

# *Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на жнівень 2013 году*

***1 жніўня***
*70 гадоў таму (1943) – У ўрочышчы Батароўка каля Наваградку фашыстамі былі расстраляныя 11 сясьцёр-назарэтанак. 6.3.2000 яны былі беатыфікаваныя.*

***2 жніўня***
*180 гадоў таму (1833) – У Гародні каля Скідзельскай заставы (раён сёньняшняга аўтавакзалу) павешаны Міхал Валовіч, арганізатар нацыянальна-вызвольнага руху, удзельнік паўстаньня 1830-31. Нараджэнец Парэчча (Слонімскі р-н).*




***4 жніўня***
*175 гадоў таму (1838) – У Валожыне нарадзіўся Юзаф Беркман, жывапісец, удзельнік паўстаньня 1863-64, ваяваў на Ашмяншчыне.*
*40 гадоў таму (1973) – У Чыкага памёр Міхал Урбановіч, беларускі культурны дзеяч, педагог, каталіцкі сьвятар у замежжы (ЗША). Пахаваны на чыкагскіх могілках Сьв. Казімера. Нараджэнец Астрыны.*

***5 жніўня***
*105 гадоў таму (1908) – Памёр Валеры Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64. Пахаваны ў Парыжы на могілках Пэр-Ляшэз. Нараджэнец Жалудка (Шчучынскі р-н).*
*75 гадоў таму (1938) – У Курапатах пад Менскам быў расстраляны Мітрафан Тамільчык, беларускі фізік, выкладнік Беларускага палітэхнічнага інстытуту. Нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы (Слонімскі р-н) у 1896.*

***12 жніўня***
*65 гадоў таму (1948) – У Чэхаславаччыне савецкімі карнымі органамі былі арыштаваныя Янка і Ларыса Геніюшы, пазьней засуджаныя да 25 гадоў савецкага канцлягеру.*

***13 жніўня***
*90 гадоў таму (1923) – У в. Католышы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Самсон Пярловіч, сябра Саюзу Вызваленьня Беларусі, беларускі паэт, вязень ГУЛАГу.*

***15 жніўня***
*155 гадоў таму (1858) – Нарадзіўся (у Гарадзенскай губ.) Міхаіл Пліс, беларускі грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар.*

***18 жніўня***
*35 гадоў таму (1978) – У Гервятах (Астравецкі р-н) памёр Станіслаў Хадыка (нар. 120 гадоў таму у 1893 на Віленшчыне), беларускі каталіцкі сьвятар, вязень савецкіх канцлягераў. Прац. у Казловічах (Гарадзенскі р-н), Гервятах.*

***19 жніўня***
*165 гадоў таму (1848) – У Вільні памёр Міхал Палінскі-Пёлка, педагог, матэматык. Нараджэнец Слонімшчыны.*
*15 гадоў таму (1998) – У Гародні памёр Валянцін Шаўцоў, беларускі педагог, дырэктар СШ №9. Пахаваны на могілках каля станцыі Аульс пад Гародняй.*

***22 жніўня***
*35 гадоў таму (1978) – У Менску памёр Пілiп Пестрак, беларускі літаратар, актывіст КПЗБ. Пахаваны на менскіх Усходніх могілках. У 1927-29 жыў у Слоніме. Быў зьняволены польскімі ўладамі ў Гарадзенскую турму.*

***27 жніўня***
*20 гадоў таму (1993) – У вёсцы Азярніца (Слонімскі р-н) памёр Алесь Сучок (сапр. Пятро Дабрыян) беларускі паэт, актыўны змагар за адкрыцьцё беларускіх школ на Гарадзеншчыне. Пахаваны ў Азярніцы.*

***29 жніўня***
*120 гадоў таму (1893) – У Гародні нарадзіўся Станіслаў Жыўна (памёр у 1940-ыя), натураліст, калекцыянер, стваральнік у 1926-ым годзе ў Гародні музея прыроды.*

***31 жніўня***
*245 гадоў таму (1768) – У в. Жукоўшчына (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Раймонд Корсак, паэт, удзельнік паўстаньня 1794.*

***Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцы "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце***

**www.racyja.com**

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www. spring96.org**




***На сайце***

**www.palitviazni.info**

***вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі***

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**



***Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:***

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
ліпень 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

